№5 (14)
2000г.
травень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны



## Дзе знаходзіцца наш горад?

- У Сярэдняй Азіі, - мог бы адказаць падарожны, які выпадкова трапіў у Барысаў. І яго адказ цяжка было б аспрэчыць.

Сапраўды, нельга ўявіць наш горад без жоўтых плям пяску, што цягнуцца праз новыя мікрараёны. Толькі ўздымецца вецер, як суцэльныя пылавыя буры пакрываюць дамы, гатовыя збіць з ног неасцярожнага гараджаніна. Немагчыма растлумачыць абыякавасць барысаўцаў да свайго горада, да ўмоў, у якіх яны жывуць і дзе будуць жыць іх дзеці. Бо ці цяжка пасадзіць траву?

Між іншым, давялося мне чуць, што беларусы - перасяленцы ў Сібіры, на Далёкім Усходзе для новых паселішч заўсёды выбіралі сабе месцы з традыцыйным краявідам, каб была рэчка, лясок, балотца і г. д.

Што ж выбралі сабе сучасныя барысаўскія беларусы?

*М.Пучыла*




















## Лепшы па прафесіі

26 красавіка ў Барысаве праводзіўся конкурс «Лепшы па прафесіі» сярод медыкаў Барысаўскага раёна. У ім удзельнічалі 10 медыцынскіх сёстраў раёна. Лепшай сярод іх па выніках конкурсу стала Каралёва Тамара Станіславаўна, працэдурная медсястра кардыялагічнага аддзялення №2. У канцы траўня яна збіраецца змагацца за званне «лепшай» па вобласці. Тамара Станіславаўна звязвае свае высокія працоўныя поспехі перш за ўсё з калектывам, у якім працуе. Узначальвае гэты калектыў загадчык аддзялення Пунтус Аляксей Якаўлевіч. Старшая медсястра аддзялення Рафеенка Аксана Валянцінаўна, урачы Сакалоўская Таццяна Фёдараўна і Адамейка Наталля Фёдараўна ўважлівыя, прафесійна адносяцца да хворых. У калектыве пануе ўзаемадапамога і сяброўскія адносіны сярод калег. Пажадаем нашым кардыёлагам поспеху, а Каралёвай Тамары Станіславаўне новых творчых вышынь!

*І.Сяменава*

## Козы - свяшчэнныя жывёлы?!

Толькі так можна растлумачыць з'яву, якая ўсё часцей назіраецца ў нашым горадзе. Козы разгульваюць, дзе ім падабаецца, і, як тыя піранні, аб'ядаюць усю зеляніну навокал. Здаецца, яшчэ ўчора каля дома красаваліся прыгожыя дрэўцы, хмызнячок, за якімі пяшчотна даглядалі, а сёння на гэтым месцы сухія аб'едзеныя дубцы. Цікава, што гаспадары гэтых жывёл таксама адчуваюць сябе недатыкальнымі. Яны таксама абламваюць галінкі з дрэваў, скошваюць непрыглядныдымі плямамі траву, пакідаюць пасля сябе пустэчу. Такое можна назіраць толькі ў Барысаве. Хіба можна сабе ўявіць такое відовішча ў Мінску ці ў любым еўрапейскім горадзе? Толькі ў далёкай Індыі каровы - свяшчэнныя жывёліны блукаюць без нагляду.

*І.Сямёнава*

## Падведзены вынікі

З 26 сакавіка па 1 красавіка праходзілі рэспубліканскія алімпіяды школьнікаў, у якіх удзельнічалі 24 вучні школ горада па 12 прадметах. У гэтым годзе якасць выступленняў школьнікаў значна лепшая: усяго дыпломаў І-ІІ ст. - 17, з іх І ст. - 9, ІІ ст. - 5, ІІІ ст. - 3, што складае 70,8% (для параўнання - у 1997/98 - 68,2%, у 1999 - 38,8%), два вучні прывезлі пахвальныя водгукі. У разрэзе прадметаў: па рускай мове - 4 дыпломы І ст., 1 пахвальны водгук, па іспанскай мове - 1дыплом І ст., 2 дыпломы 2 ст., па геаграфіі - 2 дыпломы 1 ст., 2 дыпломы ІІ ст., 1 дыплом ІІІ ст., па хіміі - 1 дыплом І ст., па гісторыі - 1 дыплом І ст., па астраноміі - 1 дыплом ІІ ст., па матэматыцы - 1 дыплом ІІІ ст., па інфарматыцы - 1 дыплом ІІІ ст., па французскай мове - 1 пахвальны водгук. Адначасова з гэтым, па такіх прадметах, як беларуская, англійская мовы, біялогія вучні школ горада выступілі слаба.

## Дзень Зямлі

Аддзел адукацыі і Барысаўскі эколага-натуралістычны цэнтр аб'явілі аб правядзенні гарадской экалагічнай акцыі «Дзень Зямлі - 2000».

*Падрыхтаваў М.Пучыла*

## ТБМ перажывае «рэнесанс»?!

Апошнім часам па Беларусі назіраецца рост колькасці сябраў Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Ф.Скарыны. Не засталася ў баку ад гэтага працэсу і Барысаўшчына. Сёлета ў нашым горадзе былі ўтвораны і ў красавіку зарэгістраваны шэсць яго новых суполак. У сувязі з гэтым 22 траўня адбыўся агульнагарадскі сход прыхільнікаў беларускай культурнай спадчыны, на якім была абрана новая Барысаўская гарадская рада ТБМ, рэвізійная камісія. Старшынёй рады выбраны І.Белы, яго намеснікам - С.Салаш.

На сходзе прысутнічаў госць з Менску - старшыня ТБМ А.Трусаў. Ён распавёў аб дзейнасці Таварыства ў іншых рэгіёнах Беларусі, планах на бліжэйшую будучыню.

*А.Барэвіч*

***P.S.:*** *Усе, хто жадае атрымаць інфармацыю аб ТБМ або звязацца з ім, могуць зрабіць гэта праз нашу газету.*

## Каму давярае падлетак

Дзеці растуць, і ўслед за гэтым з'яўляюцца розныя далёка не дзіцячыя праблемы. З цягам часу гэтыя праблемы набываюць усё большыя маштабы. Аднак, якімі б вялікімі яны не былі, імі хочацца падзяліцца, каб атрымаць параду ці проста знайсці пэўнае супакаенне.

У выніку апытання моладзі ад 13 да 17 гадоў, з'явіўся хіт-парад падлеткавага даверу.

Як бачна, найбольшая колькасць апытанных давярае бацькам. Як бы маладыя людзі ні сварыліся са сваімі татамі і мамамі, як бы востра ні стаяла праблема бацькоў і дзяцей, усё ж такі даверу большасць бацькоў заслугоўвае. А вось школьным настаўнікам, хутчэй усяго, варта задумацца, чаму ім, прафесіяналам ад педагогікі, юныя не спяшаюцца раскрыць свае душы.

*Н.Дударэвіч*




*Нагадваем, што на газету **«Гоман Барысаўшчыны»** можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс выдання*

**64184**.

*Барысаўская гарадская рада ТБМ імя Ф.Скарыны і рэдакцыя газеты «Гоман Барысаўшчыны» паведамляюць, што тыя, хто падпішацца на другое паўгоддзе на газету «Наша слова» (орган ТБМ) або на «Гоман Барысаўшчыны», могуць бясплатна па прад'яўленню падпіснога квітка атрымаць адну з новых беларускіх кніг. Звяртацца па тэл. 4-48-47.*

# Колькі людзей - столькі і лёсаў



У кожнага яны складваюцца па-рознаму. У жыцці кожнага здараюцца такія гадзіны, дні, якія становяцца вырашальнымі, найбольш значнымі, незабыўнымі на ўсё жыццё.

Для барысаўчаніна Барыса Паўлавіча Балыша дзень 22 чэрвеня 1941 года назаўсёды застаўся ў памяці. Вось што ён расказвае.

- У 1939 годзе ў выніку вызваленчага паходу Заходняя Беларусь увайшла ў склад СССР, а ў 1940 годзе туды былі далучаны Літва, Латвія і Эстонія. Майго бацьку перавялі служыць начальнікам сувязі ў г. Таўраге (Літва), што размяшчаўся ў шасці кіламетрах ад мяжы. Перад новым годам (1941) ён выклікаў да сябе ўсю сям'ю. Аб тым, што на памежжы з Польшчай не спакойна, я часта чуў ад бацькі і другіх дарослых. Ужо ў сакавіку 1941 года ішла размова, што немцы сцягваюць войскі да граніцы. А ў маі былі адзначаны частыя парушэнні дзяржаўнай граніцы: то самалёты-разведчыкі кружыліся ўздоўж мяжы, та перабежчыкі перадавалі звесткі, што немцы рыхтуюцца да нападу. Нашымі гэта расцэньвалася як магчымыя правакацыі. Улічваючы такія акалічнасці, многія вайскоўцы хацелі адправіць свае сем'і далей ад граніцы, на што камандаванне рашуча запярэчыла, матывуючы тым, што гэта будзе расцэнена як панікёрства, і ніякіх прапускоў праз старую мяжу не давалі. Так і жылі ў чаканні... Толькі перад самай вайной дазвол на адпраўку радні іпропускі ўсё ж выдалі.

Сабралі пажыткі, здалі багаж, склалі ў чамаданы самае неабходнае - 22 чэрвеня вечарам меўся адпраўляцца цягнік. За тры дні да гэтага бацьку выклікалі па трывозе, і з таго дня я больш нічога пра яго не ведаю.Словам, усё было гатова да ад'езду, і мы леглі спаць.

Недзе ў тры гадзіны ночы нас разбудзіў гул машын: недалёка ад нашага дома стаяла база, адкуль спешна выязджалі машыны. Але праз 20-30 хвілін яны вярнуліся. Усё зноў супакоілася. Тады я не ведаў, што ідуць апошнія хвіліны мірнага часу і майго дзяцінства.

Ледзь толькі стала світаць, мы прачнуліся ад разрыву снарадаў. Яны ў асноўным рваліся на ваенных аб'ектах. Нават цяпер я, 14-гадовы хлапчук, думаў што гэта ўсяго толькі чарговая правакацыя ворага, хоць увесь горад быў у агні, на аўтабазе рваліся цыстэрны з палівам.

І тады пачуццё небяспекі перамагло - трэба было ратавацца, уцякаць ад гэтага жаху. Паколькі ўсе рэчы былі сабраны, мы іх схапілі і выбеглі на агарод. У гэты час у суседні дом трапіў снарад. Я з сястрычкай схаваўся ў баразне. Мама, якая выбегла пазней і не ўбачыла нас, падняла крык. Я адгукнуўся, супакоіў яе, і мы пабеглі ў лес. Там нам сустрэўся невялікі атрад чырвонаармейцаў. Разам мы ўсё далей уцякалі ад небяспекі, яшчэ не ведаючы, што гэта пачалася вайна.

Нашы ўцёкі ўскладняліся тым, што маці была цяжарная. У лесе нам сустрэліся яшчэ некалькі сям'яў. Дабраліся да шашы, якая вяла да горада. Па ёй ляцелі часта пустыя машыны, але ніхто не жадаў спыніцца, падабраць нас. Па маёй прапанове мы ўзяліся за рукі і перагарадзілі дарогу. Гэта дапамагло, нас падвезлі да чыгуначнай станцыі. Нам параілі таварным цягнікам дабірацца да Шаўляя. Першы дзень вайны скончыўся для нас на вакзале горада Шаўляя. Ноччу пачалі бамбіць аэрадром, які быў непадалёку. Нехта сказаў, што могуць бамбіць і станцыю, таму мы выйшлі з вагонаў і да раніцы прасядзелі за насыпам. Адтуль было добра бачна, як ляталі самалёты, як пускалі ракеты, як узрываліся бомбы, гарэлі будынкі. У тую ноч ніводная бомба на чыгуначны вакзал не трапіла. Раніцай нас пакармілі у камендатуры, сказалі, што як толькі вызваляць ад нямецкага дэсанта мост, нас адправяць цягніком у Рыгу. Там мы пражылі адны суткі ў гасцініцы. З вялікімі цяжкасцямі нам удалося машынай выбрацца з Рыгі ў напрамку Даўгаўпілса. Немцы бамбілі ўжо і яго. Мы пад'ехалі да чыгуначнага вакзала ў той момант, калі састаў з бежанцамі стаў набіраць ход. Мы ўжо страцілі надзею сесці ў яго, але хтосьці злітаваўся. Састаў прыпыніў, мы пагрузіліся. Калі мы праязджалі граніцу, прапускоў ніхто не правяраў. Пазней мы даведаліся, што наступны цягнік немцы разбамбілі.

Далейшы наш шлях на ўсход быў больш бяспечным, хоць і цяжкім. Успамінаючы гэтыя дні, я лічу, што нам пашанцавала і мы засталіся жыць...

*В.Пчолка*



# Травень - месяц святаў



Фота М.Васільева

*Няма ніводнага іншага месяца ў годзе, які меў бы столькі святаў, колькі іх мае травень: Вялікдзень, Дзень працы, Дзень Перамогі і шэраг іншых, больш «дробных» святаў. Здаецца, што сама прырода адраджэннем пасля халадоў усяго жывога падтрымлівае святочны настрой.*





**На фота: святкаванне траўня, раздача на цэнтральнай плошчы Барысава ваеннай нормы хлеба і вайсковай кашы**

# Чэрвень

«У чэрвені ўбача гаспадар, што Бог дасць у дар» - гаворыць народная прыказка пра першы летні месяц. У народным календары цяжка правесці мяжу паміж вясной і летам. Пачыналася пара, калі селянін мог па маладых парастках меркаваць пра будучы ўраджай.

**1/19.** Дзмітры, Карніл, Акакій, Іван, Ігнат, Сяргей.
**2/20.** Аляксей, Цімафей. Дзень Трох мучанікаў - зледзянелых старцаў Фалалея, Аляксандра, Астэрыя. Да яго, казалі, няма лета, але пасля яго ўжо не бывае зімы.
**3/21.** Кастусь, Алена, Міхал, Хведар. Лічылася, што пасеяны на Алену лён будзе асабліва ўдалы.
**4/22.** Васіліск, Іван.
**5/23.** Ефрасіння, Лявонцій, Міхал, Ісай, Ігнат, Якуб, Хведар, Дзмітры, Аўрам, Пятро, Іван, Васіль, Кастусь, Давыд, Мікіта, Даніла, Андрэй, Раман, Андрыян, Аляксандр, Генадзь.
**6/24.** Сымон, Мікіта, Мяленцій, Сцяпан, Іван, Серапіён, Калінік, Хведар. Калі ў гэты дзень стаяла цёплае надвор'е, то для пчаляроў абяцаўся багаты мёдазбор.
**7/25.** Іван, Ферапонт.
**8/26.** Карп, Георгій, Макар, Аверкій, Алена, Іван.
**9/27.** Ферапонт, Ніл, Купрыян, Фоцій, Іона, Іван, Хвядора.
Мікіта, Ігнат, Яўціхій.
**11/29.** Іван, Хвядосся. «Хвядосся-каласяніца - жыта каласіцца».
**12/30.** Ісак. На Ісака адбываюцца зменныя вяселлі.
**13/31.** Ерма, Ярмія. Канец усякай сяўбы ў большасці мясцін. «Прыйшоў Ерамей - больш не сей».
**14/1.** Пакутнік Юстын і Харытон.
**15/2.** Нічыпар, Іван, Ульяна, Варлам.
**16/3.** Клаўдзій, Іпацій, Павел, Дзяніс, Паўла, Дзмітрый, Лук'ян, Юльян.
**17/4.** Мітрафан, Мефодзій, Севярын, Засіма.
**18/5.** Дарафей, Канстанцін, Хведар, Аляксандра, Іона, Маркіян, Нікандр, Леанід, Георгій.
**19/6.** Вісарыён, Ларывон, Іона, Фёкла.
**20/7.** Хвядот, Клаўдзій, Маркел, Калерыя, Марыя.
**21/8.** Хведар, Васіль, Яфрэм, Засіма. У гэты дзень па атмасферных з'явах спрабавалі прадказаць надвор'е і ўраджай. «На Тодара раса - лета сухое і ўраджайнае».
**22/9.** Кірыл, Аляксандр, Фёкла, Марфа, Марыя.
**23/10.** Цімафей, Васіль, Іван, Аляксандр, Антаніна,Феафан.
**24/11.** Варфаламей, Варнава.
**25/12.** Ануфрэй, Пётр, Ганна, Арсень, Іона, Аўксенцій, Сцяпан, Андрэй, Феафіл. З іменем Ануфрэя звязвалі паспяванне суніц. Па гаспадарках прынята было сеяць да абеду якое-небудзь белае зерне, а па абедзе - чорнае (грэчку). Выкананне гэтага правіла гарантавала ўдачу. «Хто на Нупрэя пасее грэч, той будзе бліны печ».
**26/13.** Акуліна-грачышніца.
**27/14.** Елісей, Мяфодзій, Мсціслаў, Георгій.
**28/15.** Іона, Рыгор, Мадэст, Еранім, Хведар, Лазар, Яфрэм, Аўгусцін, а таксама прарок Амос. Авёс прабіваецца скрозь зямлю зялёнымі парасткамі.
**29/16.** Ціхан, Яўтропій.
**30/17.** Мануіл, Савел, Ісмаіл. «На Мануіла сонца застойваецца».

*Падрыхтавала І.Гракові*

# Баявая спадчына

Рыцарскі клуб, які быў арганізаваны Юрыем Паткевічам у 1998 годзе, працягвае сваю дзейнасць, з годнасцю абараняе ганар нашага горада на розных турнірах. Сёння ёсць магчымасць падрабязней даведацца як пра дзейнасць клуба «Баявая спадчына», так і пра яго стваральніка. З гэтай мэтай чытачам «ГБ» прапануецца невялікае інтэрв'ю.

**- Юра, для пачатку крыху гісторыі.**

- Усё пачалося яшчэ ў школьным узросце, калі ў парку Чалюскінцаў я ўбачыў рыцарскі турнір. Мне самаму захацелася заняцца аднаўленнем адзення, якое насілі нашы продкі.

**- Чым займаецца клуб зараз?**

- Зараз мы шыем адзенне старажытных славян VI - VIII стагоддзяў. Акрамя таго, я рыхтуюся да свайго вяселля, якое адбудзецца ў купальскую ноч па даўніх абрадах.

**- А хто ваша выбранніца?**

- Гэта пакуль што невялікі сакрэт.

**- Ведаю, што нядаўна клуб прымаў удзел у чарговым турніры.**

- Гэта так. Апошні турнір праходзіў пад Магілёвам, у лесе. Там прысутнічалі 14 беларускіх клубаў, а таксама госці з Украіны. Гэта быў нават не турнір, а інсцэніроўка кнігі-фантазіі «Вока сокала».

**- Астатнія клубы пра вас ведаюць?**

- Вядома. Я ведаю большасць клубаў, каторым прапанаваў стварыць групы людзей для пошуку невялікіх клубаў (з 2-3 чалавек). У «Баявой спадчыне» налічваецца 4 дзяўчыны і 7 хлопцаў. Ад астатніх, каторыя замінаюць ці проста нічога не робяць, пазбаўляемся.

**- А ці ёсць літаратура па профілю дзейнасці клуба?**

- Уся праблема ў тым, што літаратуры шмат, але яе цяжка дастаць. Усё неабходнае для работы даводзіцца дабываць самім (лён, шэрсць, скуру): штосьці купляем, штосьці даюць людзі.

**- Табе не здаецца, што паганства робіцца апошнім часам модным?**

- Ісцінныя аматары, прыхільнікі культуры сваіх продкаў былі і ёсць. Хоць сярод іх і мала сапраўдных, якія захоўваюць даўнія традыцыі.

**- Ці вядзе ваш клуб хронікі?**

- Вядома. Запісвалі прысвячэнні, абрады. Усё гэта выкарыстоўваем у сваёй дзейнасці, часткова дзелімся з другімі клубамі.

**- Вашы планы на бліжэйшыя паўгода?**

- Будзем працягваць рыхтавацца да турніраў. Плануецца наша выступленне на свяце горада ў Барысаве.

*Гутарку вяла М.Сергіна*







# Бярэзінская водная сістэма



Пачатак Вербскага канала

Рака Бузянка - частка Бярэзінсай воднай сістэмы

У старажытныя часы галоўнымі шляхамі зносінаў з'яўляліся рэкі. Пачатак Бярэзіны знаходзіцца недалёка ад вусця рэк, якія нясуць свае воды ў Балтыйскае мора. Гэта сувязь з даўніх часоў выкарыстоўвалася для шляхоў з варяг у грэкі.

У XVIII стагоддзі для паляпшэння транспартнай сувязі паміж рэкамі Чорнага і Балтыйскага мораў было вырашана прарыць канал паміж Бярэзінай і Віліяй. У 1631 годзе гэта пытанне разглядалася і было зацверджана на сейме Рэчы Паспалітай.Была прызначана камісія, якая павінна была рэалізаваць гэты праект. Аб важнасці яго для дзяржавы сведчыць той факт, што камісію ўзначаліў каралевіч Уладзіслаў.

Камісія выехала на месца і высветліла, што мэтазгодна злучаць Бярэзіну не з Віліяй, а праз Сергуч з Улаю, якая ўпадае ў Заходнюю Дзвіну. Быў распрацаваны новы праект. Аднак далейшыя войны і звязаныя з імі крызісы ў дзяржаве не дазволілі рэалізаваць яго. Праект так і праляжаў у Барысаве да канца XVIII стагоддзя.

Пасля анексіі тутэйшых земляў у склад Расійскай імперыі новая адміністрацыя зацікавілася праектам. Ён быў падтрыманы расійскім урадам, і ў 1798 годзе пачалася яго рэалізацыя. Скончылася будаўніцтва ўсіх гідратэхнічных збудаванняў, якія былі названы Бярэзінскай воднай сістэмай у 1805 годзе. Водная сістэма складалася з чатырох частак: Сергучскага канала і ракі Сергуч, азёр Манец і Плаўна, возера і ракі Бярэшча і Вербскага канала.

Пачыналася водная сістэма каля вёскі Броды (зараз Броды -вёска Барысаўскага раёна). Сергучскі канал быў прарыты ў 1804 годзе паралельна звілістаму рэчышчу аднайменнай ракі. Ён меў даўжыню 9,2 кіламетра, шырыню па дне 10,5 метра і 24,5 метра па дамбах. Яго глыбіня была 3 метры. У тым жа 1804 годзе на Сергучскім канале былі пабудаваны тры драўляныя аднакамерныя шлюзы. Камеры шлюзаў мелі па 42,5 метра даўжыні і 9 метраў шырыні.




У дамбах канала на вышыні 1,5 метра ад яго дна былі зроблены 14 водаспускаў. Кожны з іх меў даўжыню каля дзевяці метраў, а шырыню 3 метры. Яны з аднаго боку даваляліпрапускаць вясчнавыя воды з навакольных балот у канал, з другога - выпускалі лішнюю ваду з канала.

Пасля Сергучскага канала водны шлях ішоў па самой рацэ Сергуч (10 кіламетраў 400 метраў) да возера Манец. Для таго, каб вада з ракі Сергуч цякла ў канал, а не па свайму рэчышчу, у 1814 годзе была пабудавана спецыяльная плаціна.

Азёры Манец і Плаўна ўяўляюць сабою натуральны водападзел рэк басейнаў Чорнага і Балтыйскага мораў. Паміж названымі азёрамі ў 1802 годзе быў выкапаны канал. Ён меў даўжыню 8 кіламетраў 100 метраў. Яго шырыня па дамбах складала 32 метры, а па дне - 17 метраў. Глыбіня канала была 3 метры. На ім былі зроблены чатыры шлюзы і адзін паўшлюз.

З возера Бярэшча водная сістэма працягвалася па рацэ Бярэшча (5,5 кіламетра) і Вербскаму каналу, які таксама быў утвораны ў 1802 годзе. Вербскі канал меў даўжыню 2 кіламетры 600 метраў. На ім у 1802, 1803 гадах былі ўзведзены тры шлюзы. Такім чынам, уся Бярэзінская сістэма мела адзінаццаць шлюзаў.

На пачатку і напрыканцы Бярэзінскай воднай сістэмы меліся прыстані, на якіх бралі пошліну. Адзін з іх быў з вусця Сергучскага канала, знаходзіўся каля тутэйшай вёскі Броды.

З 1805 па 1817 год па воднай сістэме хадзілі байдакі, баркі, паўбаркі і лодкі. Яны перавозілі соль, хлеб, крупу і іншыя тавары. Акрамя таго здзяйсняўся сплаў лесу.

У 1818 годзе з пабудовай у Барысаве нізкага маста, суднаходства па Бярэзінскай воднай сістэме было спынена. Працягваўся толькі сплаў лесу. Да 40-х гадоў XIX стагоддзя рэкі, азёры і каналы, што ўваходзілі ў склад сістэмы, значна параслі і абмялелі., гідратэхнічныя збудаванні прыйшлі ў непрыдатны для эксплуатацыі стан. Таму нават сплаў лесу быў спынены.

У 1843 годзе пачынаецца рэканструкцыя Бярэзінскай воднай сістэмы. У гэты час была перабудавана большая частка шлюзаў, паглыблены каналы.

Яшчэ ў 1842 годзе быў распрацаваны праект пабудовы дадатковага канала ад ракі Сергуч міма азёр Манец і Плаўна. Гэта павінна было значна палепшыць умовы для суднаходства. Аднак гэты праект так і не быў рэалізаваны. Пасля праведзенай рэканструкцыі воднай сістэмы суднаходства па ёй так і не было адноўлена, распачаўся зноў толькі сплаў лесу. Лес, як і раней, сплаўляўся з Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага і Рэчыцкага паветаў Менскай губерні і з бліжэйшых месц Магілёўскай губерні. У 1844 годзе яго перавезлі праз Бярэзінскую водную сістэму і далей да Рыжскага порта на суму 420629 рублёў.

Лес сплаўлялі лавамі. Кожная лава складалася з пяці звенняў - глейнаў. Кожная глейна ўтрымлівала не больш пяці бярвенняў даўжынёю 64 метры. Такія плыты мелі пасадку ў вадзе да 35 сантыметраў. Кожнай лавай кіравалі 2-3 чалавекі. Яны адпіхваннем шастамі і з дапамогаю захопаў кручкамі бячоўнікаў рухаліся наперад. За такую працу кожны з іх атрымліваў акрамя ежы каля двух рублёў у тыдзень. Лавы праходзілі ад Барысава да пачатку Бярэзінскай воднай сістэмы за 12 - 14 дзён, а па сістэме яны ішлі каля сямі дзён.

Каля кожнага шлюза знаходзіліся памяшканні для варты. Каля аднаго са шлюзаў на канале паміж азёрамі Плаўна і Бярэшча быў дом начальніка дыстанцыі і матэрыяльны склад. На Сергучскім канале ў двух вярстах ад яго пачатку знаходзілася карчма.

Пасля 40-х гадоў XIX стагоддзя Бярэзінская водная сістэма не раз аднаўлялася. Дзейнічала яна да сярэдзіны 50-х гадоў XX стагоддзя. Зараз ад яе засталіся каналы і асобныя іншыя гідратэхнічныя збудаванні. Месцамі можна ўбачыць амаль дашчэнту прагніўшыя рэшткі былых шлюзавых камер.

*М.Мацельскі*





Сургучскі канал

Сучасны стан аднаго са шлюзаў на Вербскім канале



Царква ў Бытчы. Так яна выглядала некалькі гадоў таму



Бярэзіна за Малым Стахавам

# Маршрут выхаднога дня

Сёння вашай увазе прапануецца маршрут для аднадзённай велавандроўкі па наваколлях Барысава. У яе можна адправіцца са сваімі сябрамі, знаёмымі ці проста ўсёй сям'ёй. Ніякая спецыяльная падрыхтоўка да вандроўкі не патрабуецца. Але не забудзьце ўзяць запас ежы і вады на дзень, а таксама запасную камеру для ровара і набор ключоў на выпадак праблем з ім.

Пачаць вандроўку мэтазгодна ад рынку ў старой частцы Барысава. Адсюль трэба рушыць па вуліцах Дзяржынскага, Марозава, Савецкай, Магнітагорскай і Чырвонаармейскай. На вуліцы Марозава звярніце ўвагу на стары двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы, які будзе знаходзіцца злева. Ён быў узведзены ў 1897 годзе і выкарыстоўваўся раней пад гарадскую чатырохкласную вучэльню.

На вуліцы Магнітагорскай і пачатку Чырвонаармейскай звярніце ўвагу на маленькія віхлявыя завулкі, што адыходзяць ад іх. Сустракаюцца ў гэтай частцы горада і старыя драўляныя будынкі. Усё гэта і яры, якія падыходзяць да Бярэзіны, утвараюць непаўторны каларыт гэтага кутка нашага горада. Шмат для каго, хто нават усё жыццё правёў у Барысаве, гэта будзе нечаканасцю.

Пасля чатырох кіламетраў шляху па вуліцы Чырвонаармейскай вы трапіце на дарогу з Барысава на Зембін. На першым асфальтавым павароце з яе направа трэба звярнуць і падняцца на невялікае ўзвышша. Вы апынецеся на тэрыторыі былога маёнтка. Справа ад дарожкі будзе знаходзіцца склеп так званага Напалеонаўскага доміка, а прама - былы палац Радзівілаў канца XVIII стагоддзя (пра іх мы пісалі ў пазамінулым нумары газеты). Недалёка адтуль, за сажалкамі, знаходзіцца замчышча XII стагоддзя старажытнага Барысава з сядзібным домам канца XIX - пачатку XX стагоддзя. Пасля іх агляду трэба выехаць на шлях на Зембін і праехаць па ім да павароту на Малое Стахава, далей - праз названую вёску. Па выездзе з яе трэба павярнуць налева на лясную дарогу. З яе не трэба нікуды зварочваць.

Спачатку будзе пераважна сасновы лес, а потым - лес з ялін. Недзе праз кіламетр ад вёскі, на раздарожжы, трэба павярнуць налева. Праз сасновы лес, у якім далей будзе ўсё болей бяроз, вы хутка выедзеце да Бярэзіны. Тут вы ўбачыце курганную групу. Курганы, што ўваходзяць у яе, уяўляюць сабою пахаванні VIII - XI стагоддзяў. Пасля іх агляду трэба ехаць направа ўздоўж ракі.

У хуткім часе каля пясчанага схілу на павароце рэчышча Бярэзіны вы трапіце на цудоўныя для адпачынку месцы. Тут у летнюю спёку шмат хто з барысаўцаў з вялікім задавальненнем бавіць свой час ля ратавальнай прахалоды вады. На гэтым месцы можна спыніцца і адпачыць. Але не забывайце, што пасля вашага ад'езду не павінна застацца ні смецця, ні іншых негатыўных слядоў вашай прысутнасці.

Па далейшаму шляху ўздоўж Бярэзіны звярніце ўвагу на яе другую надпоймавую тэрасу, якая месцамі суцэльнай сцяной у выглядзе дастаткова стромкага ўздыму будзе ад вас справа. У найстаражытныя часы - дзесяткі, а можа, і сотні тысячаў год таму - яе ўтварыла Бярэзіна. Калісьці гэта быў яе абрывісты бераг. Яна сваімі водамі доўгі час падмывала яго. Аднак потым на наш край насоўваліся ледавікі. Яны змянілі ландшафт, «падкарэктавалі» рэчышча Бярэзіны. Але ледавікі не змаглі знішчыць тое, што ўтварыла наша Бярэзіна. Так (як помнік яе вялічы і дзейнасці ў старажытнасці) дайшла да нас гэта тэраса.

Далей лес будзе больш шчыльным. Вы пераедзеце невялікі ручэй, які ў летнюю спёку можа перасохнуць наогул. У хуткім часе вы даедзеце да скрыжавання лясных дарог. Неабходна звярнуць направа, трошкі падняцца ўверх і недзе праз 30 метраў звярнуць на невялікую дарогу налева, па ёй падняцца ўверх. Праз метраў 50 трэба збочыць з дарогі налева і падняцца на ўзвышша. У выніку трапіце на гарадзішча - умацаванае паселенне першай паловы першага тысячагоддзя нашага часу. Яно ўяўляе сабою амаль роўную пляцоўку, на якой калісьці знаходзіліся жылыя і гаспадарчыя будынкі, а па яе краях быў тын. З трох бакоў за ім былі стромкія схілы, а з чацвёртага - абарончы вал і роў. Яны захаваліся да нашых дзён. Пасярэдзіне гарадзішча зараз існуе акоп XX стагоддзя.

Пасля агляду гарадзішча можна або вярнуцца на шлях, па якому вы ехалі ўздоўж Бярэзіны, або, калі вас не палохаюць дрэвы, што ляжаць упоперак дарогі, рушце далей па невялікай лясной дарозе. Потым праз дамбу сажалкі і сцежку вы выедзеце на той жа шлях. Па ім вы трапіце ў Бытчу. Тут варта агледзець царкву, якая была ўзведзена ў другой палове XIX стагоддзя і зараз аднаўляецца. З Бытчы, нікуды не паварочваючы, вы трапіце ў вёску Дубяні. Тут знаходзіцца самае глыбокае возера на Барысаўшчыне (пра яго і паданне, што тлумачыць утварэнне возера, наша газета пісала ў папярэдніх нумарах). На пачатку вёскі лепей павярнуць налева і пад'ехаць да возера з адваротнага берага. Тут ёсць добрая паляна, на якой можна адпачыць.

Далей па дарозе можна выехаць на бетонны шлях каля вёскі Падбярэззе. На полі ў гэтым месцы 19 траўня 1863 года адбыўся найбольш значны ў нашым краі бой паміж атрадам паўстанцаў і царскімі войскамі. Адсюль праз лес па бетоннай дарозе, на якой амаль адсутнічае рух транспарту, будзе вельмі прыемна вярнуцца ў Барысаў.

Працягласць вандроўкі - не больш 50 - 55 кіламетраў. Яе можна праехаць без спеху, добра пазнаёміцца з усімі цікавымі мясцінамі, прыгажосцю тутэйшай прыроды. Прыемнага вам адпачынку!

*Ю.Гурэвіч*








Возера каля вёскі Дубяні - самае глыбокае на Барысаўшчыне

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-13 за 1996 - 2000 гг.)*

Маскоўскае і ўкраінскае пасольствы прабылі ў Барысаве некалькі месяцаў, аднак прадстаўнікоў Вялікага княства так і не дачакаліся. На пачатку лета 1660 года становішча маскоўцаў значна пагоршылася. Немагчымасць перамоваў стала відавочнай, і напрыканцы чэрвеня Адаеўскі з іншымі сваімі ўпаўнаважанымі на перамовы прадстаўнікамі выехаў з Барысава ў Смаленск. У хуткім часе пад Барысавам з'явіліся войскі Вялікага княства Літоўскага, якімі кіравалі Сапега і Чарнецкі. Яны пачалі аблогу замка і два разы спрабавалі яго захапіць. Але гэта ім не ўдалося. Маскоўцы паспелі добра ўмацаваць горад, а яго залога складалася з тысячы ратнікаў. На пачатку траўня 1662 года маскоўскі ўрад накіраваў на дапамогу барысаўскай залогі дадатковыя войскі.

У цяжкіх для сябе ўмовах маскоўскі цар усё больш упарта дамагаўся заключыць замірэнне. Ён нават ужо быў згодны пакінуць Вялікаму княству Барысаў, на што раней ніяк не жадаў ісці.

Гарнізон чужынцаў у Барысаве, якім кіраваў ваявода Хлопаў, стаў адчуваць недахоп ежы. У выніку пачаўся перабег маскоўскіх вайскоўцаў на бок арміі Вялікага княства. Таму Хлопаў атрымаў загад пакінуць Барысаў. 9 ліпеня 1662 года рэшткі гарнізона маскоўцаў пакінулі горад. Пры гэтым яны змаглі забраць казну, гарматы і запасы ежы, якія яшчэ заставаліся.

Пасля вызвалення наш край знаходзіўся ў жудасным стане. Ад Бярэзіны да Дняпра, асабліва на поўнач ад шляху Барысаў - Ворша, усё было разрабавана і спалена. Шмат людзей забрана ў палон у Масковію.

У рэшце рэшт наша дзяржава была вызвалена ад агрэсара, і ў 1667 годзе было падпісана Андрусаўскае замірэнне.

## Паміж войнамі з Масковіяй і Швецыяй

Яшчэ падчас вайны, праз тры месяцы пасля вызвалення Барысава, 2 кастрычніка 1662 года А.Маерберг, які праязджаў праз наш горад адзначаў, што ён разбураны, а ў двух замках няма ніякіх пабудоў, акрамя ўбогага жытла ваяводы з капліцаю. Барысаву вайною быў нанесены настолькі моцны ўдар, што ён змог аднавіць даваенную колькасць насельніцтва толькі напрыканцы XVIII стагоддзя. Наша дзяржава так і не змагла адрадзіць сваю веліч. Вялікае княства Літоўскае знаходзілася ў глыбокім заняпадзе. Колькасць насельніцтва скарацілася амаль у два разы. Яшчэ большыя страты былі нанесены пагалоўю хатніх жывёлін. У выніку шмат земляў прыйшло ў запусценне, знізілася ўраджайнасць, а эканоміка была адкінута ў развіцці на дзесяткі гадоў. Аднаўленню нармальнага жыцця замінала і тое, што большая частка рамеснікаў была вывезена ў Масковію. Так, толькі ў Мяшчанскай слабадзе ў Маскве ў сярэдзіне 60-х гадоў XVII стагоддзя пражывала 13 сем'яў з Барысава.

Дзеля справядлівасці трэба дадаць, што абнішчэнню тутэйшых земляў акрамя варожых дзеянняў спрыяў пастой тут сваіх войск. Асобныя з іх паводзілі сябе не зусім карэктна. Так, яшчэ напярэдадні вайны ў 1653 годзе харугва Палубінскага практычна займалася рабаўніцтвам у Барысаўскім старостве, што нават выклікала пратэст у гетмана Я.Радзівіла.

Пасля заканчэння вайсковых дзеянняў быў зліквідаваны Барысаўскі павет і адноўлены стары адміністрацыйны падзел земляў. Але мяжа паміж Менскім і Аршанскім паветамі была праведзена ў нашым краі па Бярэзіне.

У сувязі з тым, што ўсе дакументы і прывілеі загінулі падчас вайны, 5 траўня 1664 года Ян Казімір даў Барысаву новы прывілей, у якім пацвердзіў яго правы. Але тут ужо не ішла гаворка аб магдэбургскім праве. У гэтым дакуменце Барысаў называецца мястэчкам. Пазней, 6 сакавіка 1698 года гэты прывілей быў пацверджаны Аўгустам II.

У 1669 годзе Барысаўскім старостам быў надворны падскарбій Вялікага княства Літоўскага граф Казімір Ян Сапега, а ў 1697 годзе - Слушка.

У другой палове XVII стагоддзя праз Барысаў ехалі: Бергант Танер - дварэцкі Чартарыгскага - пасла Рэчы Паспалітай у Маскові (1678 год), Пётр Талстой - маскоўскі стольнік (1697 год), І. Корб - сакратар пасольства Свяшчэннай Рымскай Імперыі (1698 - 1699 годы). Усе яны пакінулі запісы аб нашым краі.

Пасля вайны замкі ў Барысаве не аднаўляліся. У 1678 годзе ад іх заставаліся толькі земляныя валы, ірвы і рэшткі сцен. Да 1697 года рэшткі сцен ужо спарахнелі, засталіся толькі земляныя ўмацаванні. Унутры старога замка знаходзіўся толькі двор барысаўскага старосты. Тым не менш у Барысаве напрыканцы XVII стагоддзя, пэўна, знаходзіўся невялікі атрад жаўнераў. Ва ўсякім разе ў адным з дакументаў 1696 года ўзгадваецца намеснік Барысаўскай харугвы.

У 90-х гадах тутэйшыя жыхары моцна пацярпелі з-за супрацьборства тутэйшых партый Сапегі і Агінскага, сведкам чаму быў у 1697 годзе І.Карб. Канфлікт быў абумоўлены стратай падчас вайны старых статутаў, у якіх апісваліся павіннасці, якія барысаўцы павінны былі несці ў адносінах да сваіх дзяржаўцаў. Дзеля вырашэння гэтага канфлікта па просьбе жыхароў Барысава 6 сакавіка 1698 года Аўгустам II была прызначана спецыяльная камісія, у склад якой увайшлі староста менскі Крыштаў Завіша, падкаморы мінскі Фёдар Друцкі - Горскі і земскі віцебскі суддзя Фёдар Лукомскі. Дадзеная камісія павінна была выехаць у Барысаў 23 чэрвеня 1698 года і на месцы вызначыць падаткі для тутэйшых мяшчан па прыкладу іншых мястэчак, што не карыстаюцца магдэбургскім правам.

Да 1697 года адносіцца найбольш старое пісьмовае сведчанне аб яўрэях у Барысаве. Пятром Талстым адзначалася наяўнасць у нашым горадзе вялікай колькасці іх дамоў. Немалую колькасць яўрэяў у Барысаве пацвярджае і дэкрэт ад 6 траўня 1702 года, які датычыўся яўрэяў гарадоў Менскай губерні. Аднак наўрад ці канец XVII стагоддзя можна лічыць пачаткам пасялення яўрэяў у нашым краі. Гэта, хутчэй за ўсё, адбылося значна раней.

Паміж 1697 і 1699 гадамі ў Барысаве быў пабудаваны доўгі драўляны мост праз Бярэзіну, які перасякаў раку і неадназова - не рукавы. Да пабудовы маста пераправа ладзілася з дапамогаю парома.

15 жніўня 1699 года ў Барысаве было вялікае свята. Повадам для яго было асвяшчэнне новай царквы. Па гэтаму повадру ў Барысаве знаходзіўся пракурор Менскай калегіі і мноства іншых знатных гасцей.

*(Працяг будзе)*

**М.Мацельскі**

# Юбілей

Адзначыў свой юбілей Барысаўскі Народны тэатр «Відарыс». Дакладней два юбілеі - 120-годдзе першага аматарскага тэатра Барысава і 40-годдзе надання ганаровага звання «Народны». Гэты год быў удалым і перспектыўным для калектыва. Перамогі на абласным і рэспубліканскім тэатральных фестывалях, тры прэм'еры, прыход у тэатр таленавітай моладзі і, нарэшце, рамонт і тэхнічнае перааснашчэнне даюць падставы меркаваць, што «Відарыс» знаходзіцца на парозе творчага ўзлёту і новых поспехаў.

Павіншаваць калектыў прыйшлі як афіцыйныя прадстаўнікі з абласнога кіраўніцтва, так і шматлікія прыхільнікі тэатральнага мастацтва. «Відарыс» на юбілейнай вечарыне прапанаваў гледачам спектакль «Раслаўлеў альбо...» па матывах малавядомых твораў А.С.Грыбаедава, які быў цёпла сустрэты залай. А затым былі віншаванні і запамінальная сустрэча акцёраў розных пакаленняў. Прыйшлі і тыя, хто ў 50-х гадах стварыў Народны калектыў і хто потым шмат гадоў працаваў у ім, а таксама тыя, хто будзе надалей несці нялёгкую, але цікавую долю акцёра аматарскага тэатра.Працы, поспехаў, прэм'ер і кветак табе, «Відарыс»!

**У.Блажыевіч**



Узнагароджанне юбіляраў

Фота В.Пчолкі



Фрагмент спектакля «Раслаўлеў альбо...»

# Пра лён

«Прыйдзе восень - заб'ю лося, галаву з'ем, шкуру аблуплю, а мяса за плот выкіну». Цяпер не кожны беларус адгадае гэтую загадку. Дзіўна, але большасць усё яшчэ грэбліва пазіраюць на ільняную бялізну ды на палатнянае адзенне. Убіта ў галаву: лён ад беднасці. Няшчасныя беларусы! Калісьці ўсё жыццё ў палатняным...

«Гладкае, не маркае, не цяжкае, прыдатнае ў кожную пару года», - так хваліў ільняное адзенне Плутарх. Цаніў палатно і Гамер. А ў Старажытным Рыме амаль такія ж абрусы, што нашы продкі засцілалі штодня на стол, былі прыкметай раскошы. Ці не таму, што здалёк - мо з па-над Немана - прывозілі? Палатнянае адзенне, якое штодня насілі нашы продкі, аздабляла, як пішуць, біблейскіх герояў, фараонаў, жрацоў. На егіпецкіх фрэсках ІІтысячагоддзя да нашай эры намаляваны ўсе стадыі апрацоўкі лёну - разгадка той беларускай загадкі. Шчыльныя і трывалыя палатняныя латы, якія не «грэлі» і якія не прабівала страла, насілі, напрыклад, воіны персідскага цара Ксеркса...

І на нашай зямлі быў калісь лён адной з самых шанаваных раслінаў, бо і апранаў, і карміў. Беларускія жанчыны пад час важнейшых паганскіх святаў, што спраўляліся ў зімовы і летні сонцавароты ды веснавое раўнадзенства, выконвалі магічныя дзеянні, каб вырас лепшы лён. На куццю выцягвалі каліўцы травы з пасланага пад абрусам сена - варажылі. На Уласа (Масленіцу) спецыяльна ездзілі на санях як мага далей, каб лён быў даўжэйшы. А на Купалле дзяўчаты і маладзіцы кідалі ў вогнішча бярозавыя галінкі і прыгаворвалі: «Каб мой лён быў такі ж вялікі, як гэтая бярэзіна». А ўжо працы беларускія жанчыны не шкадавалі.

Што і дзівіцца: адзенне, бялізна, пялёнкі, павязкі на раны... Ручнікі, якія выкарыстоўваліся амаль у кожным абрадзе, на вяселлі і пры пахаванні. Абрусы, што мелі сваю незаменную абрадавую ролю і без якіх ні свята, ні гасціны не абыходзіліся...Вылежаўся «лось» на сарака росах, павезлі яго ў сушню. Ляскаццы церніцы, сыплецца кастрыца - працягваецца штолетняя жаночая праца, працягваецца і лета - бабіна...

**Паводле З.Сіцько**

# Прыродная лякарня

Крапіва. Хто яе не ведае. Кожнага яна некалі папякла. Яна асабліва пышна разрастаецца на багатай спажыўнымі рэчывамі глебе і знайсці яе не цяжка. Карысць жа ад гэтай лекавай расліны вельмі значная. Лісты крапівы ўтрымліваюць карацін, вітаміны «С»і «К», арганічныя кіслоты, солі жалеза, кальцыю, таніны, карацінаіды і іншыя карысныя для арганізма рэчывы.

У медыцыне прымяняецца настой крапівы пры розных відах кровацячэння: з носа, гемараідальных, лёгачных, матачных і кішэчных. Настой робіцца так: 1 сталовую лыжку сухіх лістоў заліць 1 стаканам кіпятку, настаяць 1 гадзіну, працадзіць. Прымаць па 1 сталовай лыжцы 4 разы на дзень.

У народнай медыцыне ўжываецца вельмі адвар усёй расліны. Яго п'юць пры галаўных болях. Адвар травы з мёдам ці цукрам дапамагае рабоце сэрца, печані, нырак, пры малакроўі, гастрыце, пасля родаў. Адвар карэнняў крапівы выкарыстоўваць ад кашлю, пры любых кровацячэннях. Адвар кветак - пры цукровай хваробе. Адварам травы мыюць валасы. Травой націраюць пры рэўматызме. Не будзе лішнім выкарыстоўванне адвару гэтай лекавай расліны пры нервовых хваробах, пры парушэнні абмену рэчываў у арганізме, алергіі, атэрасклерозе.

Крапіву можна выкарыстоўваць любую: з вялікімі лістамі - двухдомную і звычайную жыгучку. Пажадана збіраць яе у час цвіцення. Менавіта ў гэты час яна ўтрымлівае найбольшую колькасць карысных рэчываў.

**І.Магуш**

# Наша гасцёўня

*У гэтым нумары мы друкуем верш Дзімы Малафея, вучня 8 класа сярэдняй школы №15*

## *Што ўспамінаецца вам, сосны?*

У гэты ціхі летні вечар
Стаіце вы ў задуменні.
На трапяткія вашы плечы
Кладуцца сонейка праменні.

Ласкава ветрык пралятае,
Гуляе ў вашых верхавінах.
Ён ціхім смуткам напаўняе
І ўзварушвае ўспаміны:

Як у дні цяжкія ліхалецця
Рыжэлі вы ад куль фашысцкіх,
Як часта марылі аб леце,
Каб раны загаіць у водах чыстых.

Як на ўзлеску партызаны
Вялі баі з нямецкай зграяй.
І былі сведкамі паляны
Людскога гора сярод мая.

Як каля вогнішча сядзелі,
І ўспаміналі дом і родных,
І ціха песні свае пелі
Пра родны край такі лагодны.

Вы, сосны, галовы схілілі,
З людзьмі вы разам гаравалі.
Над партызанскаю магілай
Для мёртвых рэквіем спявалі.

Ужо пазарасталі сцежкі
Да партызанскае зямлянкі.
Збіраюць людзі тут пралескі.
Птушыны хор спявае ўранку.

Сюды прыходжу я увесну,
Праводжу многія гадзіны.
Што ўспамінецца вам, сосны,
Здаецца, ведаю адзін я.

# Тутэйшы баларускамоўны хэві-метал

*На шыі крыж абароніць мяне,*
*Я іду па лясах і манастырах,*
*Па старых камянях, па новай вясне,*
*Не чую я стомы ва ўласных нагах...*
*Кампазіцыя «Вандроўнік».*

Нарэшце ў горадзе з'явіўся музычны гурт, які акрамя таго, што мае ярка вылучаны патрыятычны накірунак, спявае выключна на беларускай мове. «N.-N. Street», а менавіта такую назву мае гэты «звышновы», зараз разгортвае вельмі бурную творчую дзейнасць.

- Мы вырашылі стварыць беларускамоўны гурт, каб нейкім чынам выразіць патрыятызм, які мы маем. Трэба несці беларускую культуру ў масы, а рускай і так хапае, - кажа адзін з яго стваральнікаў і вакаліст Аляксандар Яшчанка.


А.Яшчанка

Сёння хлопцы працуюць адразу ў некалькіх тэматычных накірунках. Параўноўваючы сябе са Scorpions, яны развіваюць міфічныя сюжэты ў стылі хэві-метал. Да гэтага можна аднесці кампазіцыі «Госць у краіне мёртвых» , «Я канібал» і іншыя. Тэма патрыятызму гучыць у песнях «Радзіма», «Армія Краёва».

Зразумела, маладзёвы гурт не забывае і пра каханне - яно агучана гуртом у кампазіцыі «Развітанне».

- У адрозненне ад вядомых у горадзе гуртоў «Рагром» і «Кайfucke-даў» мы будзем рабіць больш прафесійную музыку. Менавіта таму ў нас дзве гітары (Дзяніс Коўчын - рытм-гітара і Анохін Мікалай - сола- гітара). Мы лічым, што «панк» - гэта не сур'ёзна, бо яны бяруць у асноўным тэкстамі, аддаючы менш увагі музыцы, - кажа Аляксандр.

Калі хлопцы толькі збіраліся ствараць свой гурт, яны абмяркоўвалі саму ідэю стварэння беларукамоўнага гурта ў «шырокіх колах» мясцовых музыкантаў. Усе выказаліся адназначна - перспектыва ў такога гурта ёсць. І яны пачалі працаваць.

Першапачатковая назва гурта - «Армія Краёва» пазней была зменена на менш «радыкальную» - «N.-N. Street».

Спачатку ўзніклі пэўныя праблемы: не было памяшкання для рэпетыцый, узнікалі цяжкасці з «узбраеннем» - не было прыстойных інструментаў. Але хлопцам робяць гітары пад заказ, і яны будуць, як лічаць хлопцы, аднымі з лепшых у горадзе. Але і сёння рэпетыцыі гурта рэдка абыходзяцца без гасцей - многія музыканты горада з задавальненнем заходзяць у «N.-N. Street» «на агеньчык».

Зараз хлопцы працуюць над альбомам з рабочай назвай «Скерца на хаўрусах», які яны плануюць выдаць на пачатку ліпеня. Астаецца спадзявацца, што новы гурт будзе больш жыццяздольным, чым барысаўскі беларускамоўны гурт «Кубічны дол», які распаўся, так громка і не заявіўшы аб сабе.

*С.Нялюбін*

# Хіп-Хоп за здаровы лад жыцця

Пад такой назвай 28 красавіка ў кінатэатры «Перамога» праводзілася РЭП - вечарына, у якой павінны былі прыняць удзел як нашы барысаўскія гурты («MSD», «Кризис понимания», «Нестандартный вариант»), так і менскія («Лэд и Фрейд», «От и до» і іншыя), магілёўскія і аршанскія.

Першымі на сцэну выйшлі хлопцы з нашага горада з гурта «Кризис понимания». Гледачы завяліся з паўабарота. Наступныя выступоўцы - хлопцы з менскага гурта «Лэд и Фрейд», якія, дарэчы, выказваюць вялікую падзяку публіцы за добрую падтрымку і апладысменты.

Але гледачы нядоўга цешыліся выступленнямі гуртоў. Раптоўна нешта зламалася, і «MSD» і інш. наступныя гурты выступалі з вельмі неякасным гукам, а наш «Нестандартны варыянт» (між іншым - «Нестандартны варыянт» ужо другі год запар стаў пераможцам у агульнадзяржаўнай намінацыі «Лепшы РЭП-гурт Беларусі» і ўпершыню стаў пераможцам у намінацыі «Лепшы альбом») і «От и до», «Южный центр», «Underground Project», і астатнія былі вымушаны адмяніць свой выхад на сцэну.


Гурт «Кризис понимания»

Усе музыканты, якія не маглі выступіць, прыносяць прабачэнне прыхільнікам.


Удзельнікі гуртоў «Нестандартны варыянт», «Joker»

*С.Жук*

# «Барысаўская зорачка»

На пачатку траўня ў нашым горадзе адбыўся конкурс маладых выканаўцаў «Барысаўская зорачка». У ім прымалі ўдзел як малодшыя хлопчыкі і дзяўчынкі (ад 7 да 14 гадоў), так і больш старэйшыя выканаўцы (да 24 год). У склад журы ўваходзілі людзі самых розных прафесій: кіраўнік народнай вакальнай студыі Н.Лісоўская, загадчыца аддзела адпачынку З.Царык, А.Ягорава, П.Маскалёў і інш.


Выступае гурт «Грошы»

Першымі на сцэну выйшлі малодшыя ўдзельнікі фестывалю: Мікалай Вольгаў (11 год) з песняй «З ранку да ночы», Даша Кураўлева (7 год, дарэчы, яна з'яўлялася самай малодшай удзельніцай конкурсу) з песняй «Марачка», Уладзімір Вольгаў (12 год) з песняй «Лета», Ганна Быкоўская (13 год) з песняй «Чабурушачка». Затым былі запрошаны выпускнікі школы манекеншчыц, якія прадставілі новыя калекцыі адзення.

Пасля паказу моды на сцэну выйшлі больш старэйшыя ўдзельнікі конкурсу. Найбольш прыкметнымі былі выступленні з боку вакальнага гурта «Эцюд» (гімн.№ 2), Кацярыны Дзівінай з песняй «Смутак», Анастасіі Шэрай з песняй «My heart will go on» з кінастужкі «Тытанік», Ірына Рудак з песняй «Рэчанька» і інш. Гэта сапраўды нашы барысаўскія зоркі сцэны. У іх добра пастаўлены голас, натуральныя паводзіны на сцэне. Будзем спадзявацца, што яны будуць расці не толькі па ўзросце, але і ў сваіх музычных дасягненнях.Працягнулі конкурсную праграму самыя старэйшыя ўдзельнікі (ад 18 да 24 год). Найбольшае ўражанне гледачы атрымалі ад выканання песні «Сумашедший дождь», якую спела Тамара Дзмітрыева (21 год).

Напрыканцы конкурсу былі абвешчаны яго вынікі. Ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў пераможцам і лаўрэатам конкурсу стаў Мікалай Вольгаў. Другое месца атрымаў яго малодшы брат Уладзімір Вольгаў. Трэцяе месца было за Дашай Кураўлёвай.Ва ўзросце ад 15 да 17 год першае месца і званне лаўрэата атрымала Кацярына Дзівіна (16 год) з беларускай гімн. № 2. Другое месца было прысуджана Галіне Царык (15 год), што было ўспрынята гледачамі неадназначна. Спадабаліся гледачам, але засталіся па-за прызавымі месцамі Ірына Рудак, якая не толькі прадэманстравала свой добры і моцны голас, але таксама і запамінальны сцэнічны вобраз, Андрэй Саўчанка, Алена Кучэйка і інш.

Ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў не было канкурэнтаў у Тамары Дзмітрыевай, якая атрымала адзінае першае месца і стала лаўрэатам конкурсу. Усе астатнія ўдзельнікі ў гэтай катэгорыі не былі адзначаны.Дадатковыя ўзнагароды таксама атрымалі: Ганна Быкоўская - за лепшае выкананне беларускай песні, Ірына Рудак - за лепшы сцэнічны вобраз. Прыз сімпатыі гледачоў атрымалі Мікалай Вольгаў і Анастасія Беланоўская.Напрыканцы конкурсу яго ўдзельнікаў чакаў прыемны сюрпрыз. На сцэну выйшлі яго госці - вядомы тутэйшы рок - гурт «Грошы». Хлопцы выканалі восем песень. Пасля гэтага іх выступ перарвалі амаль што на паўпесні вядучыя конкурсу, што адклала непрыемнае ўражанне.Са смуткам трэба адзначыць, што паводзіны нашай публікі падчас конкурсу (рогат і жарты, усялякія рэплікі з залы) даюць падставу задумацца над прычынамі яе нізкай культуры.

Напрыканцы падарожжа ў свет музыкі і песень хацелася б выказаць ад імя музыкантаў гурта «Грошы» вялікую падзяку чалавеку, без якога не было б гэтага мерапрыемства. Гэты чалавек - мастацкі кіраўнік музычнай студыі завода БАТЭ Віталь Абдулаў, які прадаставіў прафесійную і вельмі дарагую апаратуру.Ад імя нашай газеты хацелася б выказаць вялікую падзяку ўсім артыстам і музыкантам, гукарэжысёрам і яшчэ раз Віталю Абдулаву за свята, якое было падаравана ўсім гледачам у гэты травеньскі дзень.

*С.Жук*

# Парады ад Наталлі

*Паважаныя чытачы!*

*Я ведаю, што вам добра знаёма ,бульба, звычайная бульба, але рэцэптаў страў з яе вы ведаеце столькі, што іх можна пералічыць на пальцах.А на самой справе з яе можна прыгатаваць столькі смачнага і незвычайнага... І сёння я прывяду рэцэпты некаторых незвычайных, але вельмі даступных і смачных страў, зробленых са звычайнай бульбы.*

*Закускі*

### Салат з бульбы і цыбулі
*(балгарская кухня)*

Бульбу адварыць у кажуры, пачысціць і нарэзаць кружочкамі. Цыбулю нарэзаць кольцамі, перацерці да мяккасці з соллю і змяшаць з бульбай. Усе гэта запоўніць салатнай запраўкай (смятана, маянэз і інш.) а зверху пасыпаць зеленню пятрушкі ці ўкропу.

На 6-7 бульбін 2 цыбуліны, 1/2 стакана салатнай запраўкі, пятрушка, укроп, соль.

### Салат з бульбы і зелені

Пачысціць і адварыць бульбу, зліць адвар і абсушыць бульбу. У гарачую бульбу пакласці крышаную зялёную цыбулю, пятрушку, укроп, расцёрты з соллю часнок, алей і драўляным песцікам патаўчы ўсе гэта ў аднародную масу. Дадаць нарэзаныя кавалкамі салёныя агуркі, добра усё перамяшаць і пасаліць па густу. З атрыманай масы зрабіць рулет, пакласці яго ў салатнік, заліць маянэзам і пасыпаць зверху зялёнай цыбуляй.

На 6-7 бульбін 250 грам зялёнай цыбулі, 2 долькі часнаку, 3-4 салёных агуркі, 2 сталовыя лыжкі зелені, 4 ст. лыжкі алею, 1/2 лыжкі маянэзу, соль.

*Першыя блюды*

### Суп-пюрэ з бульбы

Вымытую і ачышчаную цыбулю накрышыць, трошкі пасмажыць на алеі, дадаць ачышчаную і нарэзаную шматкамі бульбу, заліць усё 5 стаканамі вады, пасаліць і варыць 25-30 хвілін. Звараную бульбу разам з адварам працерці праз сіта, дадаць гарачага малака і размяшаць.Перад падачай на стол заправіць маслам і яечным жаўтком, змешаным з малаком.

Асобна можна падаць грэнкі альбо кукурузныя шматкі.

На 10 бульбін 2-3 стаканы малака, 3 ст. лыжкі масла, 3 сцяблінкі цыбулі, соль. Для запраўкі: 2 яечных жаўткі і стакан малака.

### Суп бульбяны са смятанай

Ачышчаную бульбу зварыць, дабавіць па густу мелка пакрышаны тмін. Бульбяны булён заправіць смятанай, змешанай з мукой.У гатовы суп пакласці мелка пакрышаныя крутыя яйкі, пятрушку, укроп.

На 6 бульбін 4 яйкі, 1 стакан смятаны, 2 ст. лыжкі мукі, тмін, зелень, соль.

*Другія блюды*

### Рознакаляровае бульбяное пюрэ
*(Польская кухня)*

Ачышчаную бульбу заліць падсоленым кіпенем, зварыць на вялікім агні, накрыўшы крышкай. Затым зліць ваду, драўляным песцікам зрабіць пюрэ, дадаўшы гарачае малако. Збіваць да ўтварэння пышнай масы. Атрыманае пюрэ раздзяліць на 3 роўныя часткі; адну – злучыць з расцёртым жаўтком, другую – са звараным і працёртым праз сіта бурачком, альбо бурачковым сокам, трэцюю - падфарбаваць таматам (тамат- пастай). Альбо чым-небудзь іншым. Кожную порцыю палажыць у салатнік трохкаляровай пірамідкай, прыбраўшы лісточкамі салату, пятрушкі, укропу і інш. Зверху паліць маслам. Пюрэ можна падаць да мяса альбо асобным блюдам.

На 10 бульбін 1 стакан малака, 2 ст. лыжкі слівачнага масла, 1 ст. лыжка рубленай зелені, 200г бурачкоў, 1 жаўток, 1-2 ст лыжкі тамату, соль.

### Бульба адварная са смятанай і цыбуляй
*(польская кухня)*

Абабраную бульбу адварыць і падсушыць. Цыбулю, нарэзаную кольцымі, змяшаць са смятанай, перцам, соллю, цукрам, даць пастаяць паўгадзіны, пасля чаго падаць да адваранай гарачай бульбы.

На 8 бульбін 2 цыбуліны, 1 стакан смятаны, цукар, перац, соль па густу.

# Забытыя гульні

## Гульня ў «Пікара»

Для гульні ў «пікара» трэба ўсім ўдзельнікам загатаваць драўляныя палкі аднолькавай даўжыні, абавязкова з затупленым канцом у мэтах бяспекі. Затым па чарзе трэба кінуць удалечыню кожнаму сваю палку з аднаго і таго ж месца (ад праведзенай на зямлі лініі). Хто бліжэй за ўсіх кінуў, той і будзе «пікарам». На адлегласці свайго кідка, ён, наколькі хапае даўжыні рук і палкі, абводзіць вакол сябе круг і ставіць у сярэдзіне якую-небудзь бляшанку ці старое вядро. Затым адыходзіць убок і ўсе астатнія кідаюць палкі ад лініі па чарзе, стараючыся збіць вядро. Калі нехта збіў яго ці нават калі ўсе прамазалі, трэба бегчы кожнаму, каб падняць сваю палку і вярнуцца назад за лінію, а «пікар», калі яму ўдасца, стараецца сваёй «пікай» дакрануцца да аднаго з партнёраў па гульні. Калі дакрануўся, то сам збівае пастаўленае ўжо ім раней вядро, а «пікарам» становіцца той, да каго ён дакрануўся. Калі «пікар» захапіўся пагоняй за кім-небудзь адным, то любы іншы ігрок збівае палкай вядро з месца, і «пікару» трэба заканчваць пагоню і вяртацца на месца ставіць вядро. Усе астатнія вяртаюцца назад за лінію, і гульня працягваецца ізноў. Яна развівае меткасць, прымушае ўвесь час рухацца і наогул вельмі цікавая і захапляльная.

*Л.Гадун*

**Конкурс**

*Газета «Гоман Барысаўшчыны» завяршае конкурс сярод школьнікаў Барысава і Барысаўскага раёна на лепшы фотаздымак ці артыкул. Яго вынікі будуць абвешчаны ў наступным нумары.*

# За беларускую мову

Прыгадайце, калі ў апошні раз вы чулі чыстую, звонкую, мілагучную беларускую мову - мову нашых бацькоў, мову нашай роднай Беларусі.

У рэспубліцы дзве дзяржаўныя мовы, але гэта не значыць, што рускіх школ мае быць больш, чым беларускіх. Беларускую мову вывучаюць як нешта патрэбнае, але патрэбнае не нам, а таму, што так запісана ў Канстытуцыі.

Вывучэнне роднай мовы пачынаецца не з настаўніка, а з сям'і, дзіцячага садка.

І калі мы будзем любіць і шанаваць беларускае за тое, што яно наша, роднае, тады можна будзе весці размову аб нацыі і нацыянальнай годнасці.

Можа тады і ў свеце будуць лічыцца з нашымі поглядамі, а не вырашаць значныя пытанні без ўдзелу Беларусі.

*Валодзіна Святлана, 17 год*



Фота А.Іваноўскага і У.Гадуна (17СШ)




Малюнак Л. Гадуна

# Ці ведаеце вы, што...

**Плошча Барысаўскага павета** на пачатку XX стагоддзя складала каля 10 тыс. км$^2$ (плошча сучаснага Барысаўскага раёна меней у тры з нечым разы і складае каля 3 тыс. км$^2$).

Паміж самымі аддаленымі пунктамі Барысаўскага павета было каля 213 км.

У Барысаўскі павет **уваходзілі** амаль усе землі сучаснага Барысаўскага раёна (за выключэннем самай паўднёвай яе часткі), часткова ўваходзілі землі сённяшніх Крупскага, Бярэзінскага, Смалявіцкага, Лагойскага, Вілейскага раёнаў Менскай вобласці, Докшыцкага, Лепельскага, Чашніцкага, Ушацкага, Глыбоцкага раёнаў Віцебскай вобласці і Круглянскага, Бялыніцкага раёнаў Магілёўскай вобласці.

**Плошча** былога Барысаўскага павета роўна 25% плошчы сучаснай Менскай вобласці.

**Колькасць насельніцтва** ў Барысаўскім павеце складала:
у 1847 годзе 109771 чалавек,
у 1866 годзе 125294 чалавекі,
у 1897 годзе 240764 чалавекі,
у 1919 годзе 326100 чалавек.

**У 60-х гадах XIX стагоддзя** ў Барысаўскім павеце дажывала да:
14 год 64,4% ад усіх, хто нарадзіўся;
18 год 55,9% ад усіх, хто нарадзіўся.

У 60-х гадах XIX стагоддзя ў Барысаўскім павеце 77% насельніцтва **пражывала** ў сельскай мясцовасці. У павеце было толькі два гарады - Барысаў і Докшыцы.

Па **шчыльнасці** насельніцтва Барысаўскі павет займаў чацвёртае месца сярод дзевяці ў Менскай губерні.

# Крыжаванкі

Вашай увазе прапануецца лічбавая крыжаванка. Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**13:** 3049019127729.
**11:** 27552409539.
**10:** 1266155762, 9326234536.
**8:** 11489354, 18433484, 18527233, 53579412, 58238584.
**7:** 3244374, 6243331.
**6:** 201589, 224917, 227357, 264269, 287110, 336283, 345213, 352312, 352748, 361532, 365129, 372122, 377128, 434782, 534732, 835168, 782158, 832323, 852147, 873248.
**5:** 14237, 14338, 20334, 23438, 23458, 23562, 25733, 30937, 33323, 34588, 35347, 52381, 56301, 64328, 64522, 72332, 825502, 83967, 85347, 85478.
**4:** 1031, 1277, 2043, 2251, 2483, 2540, 3232, 3237, 4211, 7237, 7332, 7551, 7623, 7431.
**3:** 129, 131, 142, 152, 189, 244, 222, 246, 324, 386, 436, 482, 533, 624, 630, 641, 679, 686, 747, 891, 901, 919.
**2:** 29, 53.

2 5 4 5 3

2 3 6 7 5 8

Крыжаванка складзена па матэрыялах гэтага нумара.

**Па гарызанталі:** 1 - вёска на Барысаўшчыне; 2 - староста барысаўскі ў другой палове XVIII стагоддзя; 3 - вуліца ў Барысаве; 4 - вёска на Барысаўшчыне; 5 - возера; 7 - вёска на Барысаўшчыне; 8 - вуліца ў Барысаве; 9 - вёска на Барысаўшчыне; 10 - староста барысаўскі ў другой палове XVIII стагоддзя; 11 - вёска на Барысаўшчыне; 12 - вёска на Барысаўшчыне; 13 - вуліца ў Барысаве; 14 - вёска на Барысаўшчыне.



**Адказы на крыжаванкі**, што былі змешчаны ў «ГБ» № 4(13)

1 - Марозава; 2 - Чэрнеўка; 3 - Грошы; 4 - Сха; 5 - Рашкоўскі; 6 - Пліса; 7 - Кастрычнік; 8 - Чарневічы; 9 - Батурына; 10 - Бярэзіна; 11 - Дымкі.



# Надвор'е ў чэрвені

Як паказвае народны досвед, у першых чыслах месяца надвор'е няўстойлівае, што звязана з пранікненнем цыклонаў. Замаразкі бываюць рэдка і толькі ў першай палове месяца. У лесе з'яўляюцца першыя грыбы-каласавікі. Пара сенакосу. З 27 чэрвеня пачынае убываць дзень.

Вянец вакол сонца - да дажджу.

Калі промні сонца ідуць пучком уніз - будзе дождж.





ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 2000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 18.00 23.05.2000 г.

Замова №

Друкарня імя 1-га Мая г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*